© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

*Тытунём хочуць заняцца культурысты (стар. 2)*
*Ганконг: праз 10 тыдняў тут будзе Кітай (стар. 7-8)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 36.670
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 22 красавіка 1997 | № 43 | Кошт свабодны

## ЦЫТАТА

**Расійская Дзяржаўная дума прыняла заяву аб неабходнасці паэтапнага дзяржаўнага ўз'яднання Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь. Цытуем вытрымку з дакумента на мове арыгінала:** *«Государственная Дума Федерального Собрания Российской Федерации выражает решимость положить начало процессу реального государственного воссоединения Российской Федерации и Республики Беларусь и провозглашает цели и принципы создания российско-белорусской федерации (союза) как единого суверенного демократического правового государства с республиканской формой правления.*

*Государственное воссоединение Российской Федерации и Республики Беларусь должно осуществиться в соответствии со следующими принципами:*

*единая территория при сохранении существующего национально-государственного устройства и административно-территориального деления каждого из объединяющихся государств;*

*единое гражданство и единая система защиты прав и свобод человека и гражданина;*

*единое экономическое пространство с единой финансово-бюджетной, налоговой и таможенной системой;*

*единые вооруженные силы, единая система обеспечения обороны и безопасности;*

*единая система федеральных органов государственной власти при сохранении права каждого из объединяющихся государств самостоятельно определять структуру своих государственных органов.»*

Здаецца, і без каментарыяў усё ясна.

*Новы вектар знешняй палітыкі*

## Карэя–В'етнам–Кітай

**Беларускае кіраўніцтва, сапсаваўшы ўзаемаадносіны з заходнімі партнёрамі, спрабуе знайсці грошы на Далёкім Усходзе.**

У нядзелю пачаўся афіцыйны візіт беларускай дэлегацыі на чале з А.Лукашэнкам у Рэспубліку Карэя. Разам з прэзідэнтам паляцелі старшыня «савета рэспублікі» Павел Шыпук і цэлая міністэрская кагорта — першы намеснік прэм'ер-міністра Пётр Пракаповіч, міністры замежных справаў, знешніх эканамічных сувязяў, прамысловасці, прадпрымальніцтва і інвестыцый, намеснік міністра абароны, старшыня праўлення Нацыянальнага банка, а таксама кіраўнікі буйнейшых вытворчых прадпрыемстваў і аб'яднанняў.

Беларускі бок разлічвае на адкрыццё Карэяй крэдытнай лініі для Беларусі і на прыцягненне высокіх тэхналогій і «ноў-хаў» у беларускае машынабудаванне, электронную прамысловасць, нафтахімію і іншыя галіны прамысловасці. Размова ідзе, у прыватнасці, аб арганізацыі сумеснай вытворчасці малатанажных і легкавых аўтамабіляў з удзелам фірмы *Daewoo* і ВА «БелАЗ»; стварэнні ў Беларусі сумеснага з *Hyundai* прадпрыемства па вытворчасці легкавых аўтамабіляў. На думку першага віцэ-прэм'ера Пятра Пракаповіча, у выпадку станоўчага вырашэння гэтых пытанняў Паўднёвая Карэя на працягу бліжэйшых 5-6 гадоў зможа выйсці на першае месца па аб'ёмах інвестыцый у беларускую эканоміку.

23 красавіка беларуская дэлегацыя адправіцца з афіцыйным візітам у В'етнам.

*БелаПАН*

## Прыватны сектар працуе лепш

**Недзяржаўны сектар беларускай прамысловасці працуе эфектыўней за дзяржаўны.**

Як сведчыць статыстыка, у І квартале гэтага года прадпрыемствы дзяржаўнай формы ўласнасці павялічылі аб'ёмы вытворчасці прадукцыі на 8,8% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, недзяржаўнай — на 11,7%. Пры гэтым найбольш эфектыўна спрацавалі сумесныя прадпрыемствы з удзелам замежнага капіталу: прырост аб'ёмаў вытворчасці тут склаў 57,3%. Па інфармацыі міністэрства статыстыкі і аналізу, па стане на 1 красавіка ў краіне налічвалася 2.075 прамысловых прадпрыемстваў, 1.137 з іх — дзяржаўнай, 938 — недзяржаўнай формы ўласнасці. Колькасць занятых у прамысловасці на гэты перыяд склала 931 тысячу чалавек, 580 тысяч з іх працуюць на дзяржаўных, 351 тысяча — на недзяржаўных прадпрыемствах.

*БелаПАН*

# Антановіч напісаў ліст ад імя Лукашэнкі



*Антановіч сцвярджае, што яму «не давалі ад варот паварот».*

*«Ад імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»* міністр замежных справаў Іван Антановіч заявіў, што Лукашэнка *«хоча абмеркаваць з усімі дэпутатамі Вярхоўнага Савета пытанне аб удасканаленні Канстытуцыі 1994 г.»* Пра гэта гаворыцца ў лісце, які Антановіч перадаў старшыні Еўрапейскага Саюза.

Але цікавасць уяўляе не толькі сам ліст, а і гісторыя ягонага з'яўлення на свет. На мінулым тыдні ў публікацыі *«Антановіча трымаюць у прыёмнай»* мы пісалі аб спробах шэфа беларускага МЗС атрымаць аўдыенцыю ў міністра замежных справаў Нідэрландаў Ханса ван Мірла, які адначасова з'яўляецца старшынёю Савета міністраў Еўрасаюза. На брыфінгу ў мінулы чацвер Антановіч абверг паведамленне СВАБОДЫ, заявіўшы, што ён без праблем атрымаў сустрэчу са спадаром ван Міерла. *«Ніхто не даваў мне ад варот паварот, як пра тое піша СВАБОДА»*, — сказаў Антановіч журналістам.

Няўжо мы памыліліся? Нічога падобнага! Атрыманая намі па гарачых слядах інфармацыя адпавядала сапраўднасці. Гэта пацвярджае і прэс-рэліз, які рэдакцыя атрымала з пасольства Нідэрландаў у Варшаве.

***«Міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч,*** — гаворыцца ў дакуменце, — ***быў запрошаны 10 красавіка ў Нідэрланды, якія цяпер узначальваюць Еўрапейскі Саюз, каб перадаць афіцыйны ліст прэзідэнта Лукашэнкі. У гэтым лісце прэзідэнт Лукашэнка павінен быў выказаць сваю рэакцыю на выніковыя дакументы Місіі Еўрасаюза па вывучэнні фактаў у Беларусі і рэкамендацыі Савета міністраў ЕС ад 24 лютага 1997 года.***

***Змест гэтага ліста быў нездавальняючы, каб абмяркоўваць яго з Антановічам на ўзроўні міністра. Таму Антановіч быў прыняты намеснікам сакратара міністэрства замежных справаў Нідэрландаў.***

***Пазней Антановіч ад імя прэзідэнта Лукашэнкі напісаў больш шырокую рэакцыю. У адказ на гэты новы ліст Антановічу далі магчымасць кароткай гутаркі з міністрам замежных справаў Нідэрландаў сп. Хансам ван Міерла. Сярод іншага было дамоўлена, што далейшыя кансультацыі будуць праводзіцца паміж беларускім урадам і дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, гэта значыць канстытуцыйнага парламента. Еўрапейскі Саюз і іншыя зацікаўленыя арганізацыі закліканыя падтрымаць гэтыя кансультацыі. Яны таксама запрошаныя дапамагчы ў вывучэнні прававой сітуацыі ў Беларусі адносна погляду правоў чалавека і незалежнасці сродкаў масавай інфармацыі, а таксама выпрацаваць парады для паляпшэння становішча.***

***Сп. ван Міерла выказаў Антановічу ад імя ЕС сваю глыбокую заклапочанасць апошнімі падзеямі ў Беларусі. Узмацненне палітычных рэпрэсій у дачыненні да дэманстрантаў і прадстаўнікоў апазіцыі яўна разыходзіцца з заявамі Беларусі аб намеры істотна палепшыць сітуацыю з правамі чалавека і незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі».***

Сёння ў СВАБОДЗЕ на 3-й паласе побач з рэкамендацыямі Еўрасаюза мы публікуем напісаны Антановічам афіцыйны ліст *«ад імя прэзідэнта РБ»*, а таксама вытрымкі з ліста Лукашэнкі, змест якога ў ЕС палічылі *«нездавальняючым»* і нявартым абмеркавання.

# Суд над Шарэцкім адкладзены

**У мінулую пятніцу ў Цэнтральным райсудзе г.Мінска павінны былі судзіць Сямёна Шарэцкага за ўдзел у шэсці на Дзень Канстытуцыі.**

Падтрымаць старшыню Вярхоўнага Савета ў суд прыйшлі яго калегі-дэпутаты С.Шушкевіч, В.Новікаў, А.Лябедзька і іншыя парламентарыі. Прысутнічалі таксама назіральнік ад місіі АБСЕ, якая ў гэтыя дні знаходзілася ў Мінску, і журналісты. Аднак судовы працэс, які быў прызначаны на 9 гадзінаў раніцы, так і не пачаўся. Сакратарка суда аб'явіла, што працэс пераносіцца на няпэўны тэрмін, бо суддзя А.Брагін, які павінен быў разглядаць справу, адсутнічае *«па сямейных абставінах»*. Шарэцкі спрабаваў адшукаць старшыню райсуда, але і той таямніча знік. Тады прама ў судовай зале была наладжана імправізаваная прэс-канферэнцыя старшыні ВС.

Шарэцкі заявіў, што ўлады баяцца адкрытага суда з удзелам міжнародных назіральнікаў і прэсы, таму яны вырашылі адкласці працэс, каб правесці яго без лішніх сведкаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



*На здымку: Сямён Шарэцкі, адвакат Гары Паганяйла і дэпутат Анатоль Лябедзька ў чаканні суддзі.*

# Яшчэ адна АЭС на мяжы з Беларуссю?

*На Украіне ўзнікла ідэя пабудаваць у чарнобыльскай зоне новую атамную электрастанцыю*

Ініцыятыўная група, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі міністэрства па пытаннях надзвычайных сітуацый, органаў улады горада Славуціча і адміністрацыі Чарнобыльскай АЭС, рыхтуе прапановы ўраду Украіны аб будаўніцтве паблізу Чарнобыля новай атамнай электрастанцыі магутнасцю 1.000 мегават. Кіраўнік адміністрацыі зоны адчужэння ЧАЭС Аляксандр Грабянюк лічыць, што электрастанцыю неабходна будаваць *«на асаблівай тэрыторыі»*, у якую павінны ўвайсці горад энергетыкаў Славуціч, Палескі раён Кіеўскай вобласці і іншыя забруджаныя рэгіёны. Праца новай электрастанцыі дазволіць замест бюджэтных сродкаў накіраваць на фінансаванне работ у чарнобыльскай зоне сродкі ад продажу электраэнергіі, што будзе надзвычай важна пасля спынення ЧАЭС. Адпаведныя прапановы прадугледжваецца перадаць ураду Украіны на працягу бліжэйшых месяцаў.

Логіку ўкраінцаў зразумець можна: лепш не рызыкаваць чыстымі тэрыторыямі, а аддаць пад патэнцыяльна небяспечны праект забруджаныя землі. Аднак для нас гэта будзе азначаць яшчэ адзін ядзерны аб'ект побач з беларускай мяжой.

*БелаПАН — УНІАН*

## Суботні рэзананс

З нагоды суботніка, які праводзіўся 19 красавіка, рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала шмат тэлефонных званкоў ад чытачоў. Усе абураліся. Настаўнікі, медработнікі, выхавацелі дзіцячых садкоў і іншыя працаўнікі бюджэтнай сферы вельмі негатыўна ўспрынялі спушчанае «зверху» распараджэнне, каб усе ўстановы пералічылі аднадзённы заробак на адпаведны рахунак.

**А.Н.**

# Народны фронт лідзіруе

У пачатку красавіка спецыялісты Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў прапанавалі экспертам у галіне сродкаў масавай інфармацыі вызначыць уплыў розных палітычных сілаў на развіццё грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Ацэньваючы ролю Беларускага народнага фронту, 80% рэспандэнтаў адзначылі станоўчы ўплыў гэтай палітычнай сілы. Уплыў Аб'яднанай грамадзянскай партыі станоўча ацанілі 77% апытаных. 51% станоўчых водгукаў набрала таксама Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная Грамада».

У той жа час шэраг палітычных сілаў, на думку экспертаў, аказвае адмоўны ўплыў на развіццё грамадска-палітычнай сітуацыі. Так, негатыўныя ацэнкі большасць рэспандэнтаў выставіла Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды (89%), прэзідэнту (73%), Славянскаму сабору «Белая Русь» (66%), Камуністычнай партыі Беларусі (59%) і Ліберальна-дэмакратычнай партыі (55%).

*БелаПАН*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



## Цэнтр Гродна ўлады пакідаюць для сябе

**Гродзенскі гарвыканкам не дазволіў ініцыятыўнай групе прадстаўнікоў шасці дэмакратычных арганізацый правесці 26 красавіка чарнобыльскае шэсце і мітынг у цэнтры горада.**

Пры гэтым гарвыканкам, каб надаць законную сілу сваім дзеянням, прыняў адпаведнае рашэнне, якое распаўсюджваецца не толькі на «чарнобыльскія» акцыі апазіцыі, але і на ўсе наступныя. З рашэння вынікае, што толькі афіцыйныя ўлады могуць праводзіць масавыя мерапрыемствы на цэнтральных плошчах горада (Леніна і Савецкай) і навакольных вуліцах. Усіх астатніх заганяюць у глухі кут, у гэтак званы парк імя 40-годдзя камсамола. Цяпер толькі там могуць праводзіць свае мітынгі дэмакратычныя арганізацыі.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Пратэставаць супраць фашызму ў Магілёве антызаконна

**«Рассмотрев Ваше заявление о проведении антифашистского пикета, Могилевский горисполком сообщает, что Вам отказано...» — такую паперу атрымалі арганізатары антыфашысцкага пікета ў Магілёве — маладзёжнае згуртаванне «Патрыёты Бацькаўшчыны» і мясцовая філія БНФ.**

Аднак пікет 21 красавіка адбыўся. Ён быў прымеркаваны да дзён нараджэння Адольфа Гітлера і Уладзіміра Леніна. Былі выстаўленыя плакаты з заклікамі супраць фашызму, цытатамі Лукашэнкавых усхваленняў Гітлера, фотаздымкамі канцлагераў і гета на тэрыторыі Беларусі, а таксама сучасныя фота са сцэнамі збіцця дэманстрантаў у Мінску. У пікеце бралі ўдзел да 200 чалавек.

Пільную ўвагу да пікета праявіў АМОН: аўтобус з байцамі ўвесь час дзяжурыў ля пікетчыкаў. Міліцыя, магчыма, і разагнала б іх, але, відаць, збянтэжыў чырвона-зялёны сцяг, які антыфашысты прадбачліва паставілі побач з пікетам.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Першая сумесная акцыя – 26 красавіка

**Пры радзе Гомельскай гарадской арганізацыі БНФ днямі ўтвораны абласны каардынацыйны камітэт.**

Ён будзе займацца арганізацыяй і ўзгадненнем сумесных дзеянняў структур Беларускага народнага фронту на Гомельшчыне. Першая сумесная акцыя мае адбыцца ў Гомелі 26 красавіка. У гэты дзень гомельскія дэмакратычныя арганізацыі плануюць правесці традыцыйнае шэсце-мітынг з нагоды 11-й гадавіны Чарнобыля.

**У.В.**

## Збор подпісаў супраць «атамнай смерці»

**У Магілёве пачалі збіраць подпісы супраць будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі.**

Акцыю наладзіў мясцовы грамадзянскі камітэт «Дзецi Чарнобыля». Быў выстаўлены пікет, дзе стаяў чалавек у пацівагазе і белым балахоне. Як заявіла кіраўнік камітэта Наталля Рослава, *«акцыя накіраваная не супраць атама ўвогуле. Будаўніцтва атамнай станцыі у Беларусі пакуль выглядае кашчунна. Яшчэ нават не лакалізаваныя наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якая забрудзіла трэць тэрыторыі краіны. Ва ўмовах эканамічнага крызісу няма гарантыі, што новая АЭС будзе надзейнай».*

Збор подпісаў ішоў паспяхова. Супраць АЭС выказваліся і маладыя, і старыя. Высветлілася, дарэчы, што вялікая колькасць людзей нават не ведала пра саму ідэю будаўніцтва беларускай АЭС. Сабрана ўжо каля 300 подпісаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*КАДРЫ*

## Вербніца



## «Вертыкаль» думае пра прэміі

**Магілёўскі аблвыканкам аднавіў міжраённае спаборніцтва за «пераходны чырвоны сцяг».**

Сцяг будзе ўручацца *«за высокія паказчыкі ў эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці».*

Паведамляецца таксама, што пераможца атрымае, акрамя сцяга, і грашовую прэмію ў 1.200 «мінімалак». Цікава, каму ж канкрэтна павінны трапіць грошы? Калі працоўным раёна, то на ўсіх не хопіць. А калі раённаму кіраўніцтву, дык будзе занадта.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## І ў правінцыі вучаць камерцыі

**Магілёўскі фінансава-эканамічны інстытут, першым сярод прыватных ВНУ беларускай правінцыі, атрымаў акрэдытацыю і сертыфікат на права выдачы дыпломаў дзяржаўнага ўзору сваім выпускнікам.**

Інстытут быў створаны ў 1993 годзе. У першым наборы вучылася толькі 82 студэнты, а навучальны працэс праходзіў у некалькіх арандаваных пакоях інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Сёння ВНУ мае асобны будынак, аднаўлены за ўласныя грошы. У ім вучыцца ў 4 разы больш студэнтаў, ім выкладаюць 6 прафесараў, 2 дактары навук і 16 кандыдатаў. Натуральна, навучанне ў інстытуце платнае, але колькасць жадаючых трапіць у недзяржаўную *alma mater* расце год ад году.

**Іван ЗАСАДА**

## Мясакамбінат на галодным пайку

**На Бабруйскім мясакамбінаце прастойвае сучаснае імпартнае абсталяванне, змантаванае польскай фірмай *Pek-Mont*.**

Дарагія, але высокаэфектыўныя, гэтыя машыны маглі б забяспечыць стабільны прыбытку камбінату. Аднак прадпрыемства працуе толькі на 1/5 магутнасці. Калгасы і саўгасы рэзка знізілі вытворчасць мяса, і спецыялістам камбіната даводзіцца ездзіць па ўсёй краіне ў пошуках сыравіны.

**Іван ЗАСАДА**

## Главный нефтяник – Иван Бамбиза

**На прошлой неделе А.Лукашенко принял решение, которое явно может повлиять на судьбу нефтяной отрасли Беларуси.**

17 апреля у президента прошло совещание с участием руководителей нефтяной отрасли, после чего было принято решение объединить концерны «Белнефтепродукт» и «Белнефтехимпром» в единую структуру — «Белнефтехим». Соответственно со своего поста был уволен глава «Белнефтехимпрома» Анатолий Мордашов, а на место руководителя новой структуры назначен Иван Бамбиза, бывший министр по делам СНГ.

Иван Бамбиза известен как человек, полностью подконтрольный президенту, и нынешнее его назначение говорит о том, что Лукашенко практически будет иметь абсолютный контроль над нефтяным комплексом. Однако момент, выбранный для реорганизации, дает возможность говорить о том, что идея создания национальной нефтяной компании похоронена и сейчас идет лишь торг с Россией по продаже белорусского нефтяного комплекса.

**А.С.**

## Мясо не уйдет, «Рама» не пройдет?

**Пытаясь предупредить возможное возникновение дефицита продовольствия в магазинах, Министерство сельского хозяйства и продовольствия запретило экспорт мяса за пределы республики.**

Согласно документу, этот запрет будет временным. Однако срок заканчивается лишь 1 октября, то есть опять подтверждается поговорка, что нет ничего более постоянного, чем «временные трудности». Однако стремительный рост курса доллара делает вывоз продовольствия в Россию все более выгодным, и логично ожидать роста нелегального экспорта.

В то же время белорусским аграриям достается от ценовой конкуренции со стороны импортных продуктов. Изобилие относительно дешевых заграничных продуктов вынудило ввести еще один запрет — на импорт масла и маргарина, в том числе и популярной среди покупателей «Рамы». В результате мы будем иметь новый вид мелкого бизнеса — продажи дешевого контрабандного маргарина, благо особых проблем с его ввозом через прозрачную белорусско-российскую границу не возникнет.

**Ян ГАЛЕВИЧ**

## Табаком хотят заняться культуристы

**Решение о реконструкции Гродненской табачной фабрики государственные органы страны пытаются принять еще с 1992 года. Основной проблемой является поиск подходящего инвестора.**

Сильнее всего лоббируется создание СП с компанией *Reynolds Tobacco*, однако Александр Лукашенко до сих пор не принял соответствующего решения. И вот министр приватизации и инвестиций Александр Сазонов выступил со своим предложением. Министерством были проведены переговоры с белорусско-болгарским СП «Балгобел», в ходе которых болгарские инвесторы выразили желание профинансировать реконструкцию Гродненской фабрики в кратчайшие сроки.

Само СП «Балгобел» в этой истории выглядит весьма интересно. Оно официально появилось в Беларуси всего неделю назад, и его учредителями с одной стороны является Белорусская ассоциация любителей культуризма, с другой — компания «Вилласар Ассошиэйтед», зарегистрированная на Вирджинских островах.

**Б.П.**

Калі вы маеце электронную пошту, то свежы нумар СВАБОДЫ вы можаце чытаць напярэдадні выхаду газеты ў свет.
**Кошт электроннай падпіскі ў межах Беларусі — 7 USD у месяц.**
**Даведкі па тэл. 236-89-40**

*ДАГЕРОТИП*

# Почем свобода слова, господа?

**Семен БУКЧИН**

Аргументы насчет «продажных перьев» всегда были одними из самых сильных и распространенных в советской идеологии. Когда не хватало других доводов, в ход шли эти самые мерзкие «перья». Давно купленные и прикормленные властью пропагандисты своим моральным аршином пытались измерить других...

В последнее время старая традиция сильно оживилась на страницах «Советской Белоруссии». Неистовое обличение московских телеканалов с их «двойными стандартами» сменилось (видимо, до новых массовых избиений граждан на улицах Минска) довольно-таки подзабытыми ленинско-большевистскими выпадами в адрес российской «так называемой свободной прессы» и ее «истинных владельцев» — «денежных мешков». Собственно, газета и не скрывает своих идеологических корней в этом вопросе. Некто С.Белкин в статье под заголовком «Независимость некоторых газет зависит от толщины кошелька их истинных хозяев», вполне отвечающим эпохе прихода Ленина к власти и закрытия небольшевистских газет, с обезоруживающей откровенностью признается: *«Раньше мы думали, что такая ситуация возможна в мире западного чистогана с их сульцбергерами и иными монополистами печатного слова. Оказывается, что и в России сегодня правит бал кошелек»* (СБ, 21 марта).

Бедный г-н Белкин! Если он так разочарован в московских газетах, то, надо полагать, его шеф просто в трансе от того, что «мир западного чистогана с их сульцбергерами» пришел в прессу столицы дружественного, уже почти «союзного» государства». А вдруг эта «зараза» перекинется на Беларусь и будет главный редактор «СБ», сегодня такой свободный от этого «чистогана», ходить под каким-нибудь Сульцбергером? Ужаснее ситуации не придумать!

«Советская Белоруссия», оправдывая свое название и предназначение, продолжает, словно ничего и не произошло за эти годы, работать на самые темные и невежественные головы и инстинкты. Главный редактор, как известно, человек неглупый, и ему, конечно, в глубине души стыдно за такие примитивные материалы, как статейка г-на Белкина. Но тут уж ничего не попишешь — служба есть служба...

Что же касается сути скандалов с акциями «Комсомольской правды» (Борьба «Онэксимбанка» и «Газпрома») и «Известий» (давление на редакцию со стороны «ЛУКойла»), то это ситуации достаточно закономерные в условиях становления российского капитала, распределения сфер его влияния и, прежде всего, его «первоначальной» дикости, нецивилизованности.

Все газеты мира издаются на чьи-то деньги. И даже прибыльные издания не могут существовать за счет подписки и розницы. Они должны работать с капиталом, их акции должны быть представлены на рынке так же, как и акции других предприятий. Это абсолютно нормальный процесс. И успех выдающихся западных медиа связан не с тем, что какой-то владелец газеты диктует журналисту, что ему писать, а с высочайшей профессиональной постановкой дела. Именно поэтому так авторитетна в мире сегодня не «Советская Белоруссия», а созданная Сульцбергером *New York Times*.

Разумеется, издатель может и давить на журналиста в каких-то своих интересах. Но у западного журналиста всегда есть возможность уйти от «преступившего грань» владельца газеты или телеканала к другому, более цивилизованному. Есть выбор. Есть конкуренция, связанная прежде всего не с тем, какой издатель окажется жестче, а какое издание привлечет больше читателей. Поэтому нормальный владелец, издатель ставят там, как правило, на талант, на культуру, на профессионализм. А это все неразрывно связано с необходимостью блюсти реноме своего издания. При этом следует учитывать, что подлинная власть так называемого газетного или телевизионного магната достаточно относительна, поскольку в ведущих мировых изданиях и телекомпаниях решающее слово принадлежит советам директоров, в которых интересы журналистов представлены достаточно авторитетно, не говоря уже о том, что они защищены профсоюзами и общественным мнением. Поэтому, повторяю, выбор у западного журналиста, работающего «в мире чистогана», есть...

А вот куда уйдут г-н Белкин и его шеф? Из «Советской Белоруссии» в «Белорусскую ниву»? Так это ведь не выбор, а служение (да еще какое, на цыпочках и с умильно поднятыми передними лапами) прежнему хозяину.

Г-н Белкин сладострастно перечисляет:

*«Газета «Сегодня» — банковская группа «Мост».*

*«Независимая газета» — небезызвестный Борис Березовский».*

И саркастически вопрошает: *«А где же «свобода печати», ау?»*

Предлагаю г-ну Белкину другой перечень:

*«Советская Белоруссия» — Лукашенко.*

*«Звязда» — Лукашенко.*

*«Знамя юности» — Лукашенко.*

*«Белорусская нива» — Лукашенко.*

*«Чырвоная змена» — Лукашенко.*

*Белорусское телевидение — Лукашенко.*

*Белорусское радио — Лукашенко.*

Можно продолжить...

*(Продолжение на стр. 3)*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Рэкамендацыі Еўрапейскага Саюза

Еўрапейскі Саюз лічыць, што Канстытуцыя 1994 года застаецца адзіным легітымным вышэйшым юрыдычным дакументам Рэспублікі Беларусь, а парламент, абраны паводле гэтай Канстытуцыі, застаецца легітымным заканадаўчым органам.

Еўрапейскі Саюз не хоча ізаляваць Беларусь і выказвае сваю адданасць працэсу, у выніку якога Беларусь у будучыні можа адыгрываць значную ролю ў еўрапейскіх структурах. Аднак ЕС заяўляе, што ключ да гэтага працэсу знаходзіцца ў Беларусі. Еўрапейскі Саюз падкрэслівае, што павага да правоў чалавека — найважнейшы фактар, які будзе вызначаць агульны падыход ЕС у яго адносінах з Беларуссю.

Справаздача аналітычнай місіі адзначыла шэраг сур'ёзных недахопаў у канстытуцыйным і палітычным працэсах на Беларусі. На падставе рэкамендацый справаздачы аналітычнай місіі Еўрапейскі Саюз накіроўвае беларускім уладам наступныя рэкамендацыі:

**Беларускія ўлады павінны гарантаваць, што:**

а) будуць ажыццёўлены адпаведныя меры для захавання прынцыпу падзелу ўлады;

б) будзе наладжаны дыялог паміж прэзідэнцкай адміністрацыяй і прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета дзеля дасягнення нацыянальнай згоды ў справе выпраўлення памылак і зацвярджэння новых канстытуцыйных асноваў дзяржавы адпаведна абраным сапраўды дэмакратычным парламентам;

в) сродкі масавай інфармацыі будуць карыстацца рэальнай свабодай, а дзяржаўныя радыё і тэлебачанне прадстаўляць свой эфір на роўных усім партыям.

Еўрапейскі Саюз заклікае Беларусь зрабіць свае прапановы ў справе ажыццяўлення гэтых мераў, што будзе садзейнічаць адбудове ўзаемаразумення паміж Беларуссю і ЕС.

**Калі з боку Беларусі не будуць назірацца пераканаўчыя высілкі ў справе правядзення неабходных эканамічных і дэмакратычных рэформаў, то:**

а) дзяржавы — члены ЕС не падтрымаюць кандыдатуру Беларусі ў члены Савета Еўропы;

б) Еўрапейскі Саюз устрымаецца ад заключэння з Беларуссю любых часовых пагадненняў, а таксама дагавораў аб партнёрстве і супрацоўніцтве;

в) двухбаковыя міністэрскія кантакты з Беларуссю будуць мець выбарачны характар;

г) усе праграмы тэхнічнай дапамогі Беларусі з боку Саюза ці яго асобных членаў будуць перагледжаныя і будуць выконвацца толькі тады, калі яны непасрэдна садзейнічаюць працэсу рэформаў.

Еўрапейскі Саюз выкарыстае свой уплыў на міжнародныя фінансавыя інстытуты, каб тыя індывідуальна падыходзілі да новых крэдытных праектаў у Беларусі, строга ўлічваючы іх эканамічную вартасць.

Еўрапейскі Саюз гатовы прапанаваць Беларусі парады і кансультацыі, а таксама весці ўсеабдымны дыялог з беларускімі ўладамі і прадстаўнікамі апазіцыі, каб дапамагчы пачаць эканамічныя і палітычныя рэформы. У сувязі з гэтым Еўрапейскі Саюз са згоды АБСЕ і Савета Еўропы прапануе Беларусі экспертаў, якія змогуць дапамагчы ёй у падрыхтоўцы новага канстытуцыйнага і эканамічнага заканадаўства, а таксама кансультацыямі ў пытаннях свабоды сродкаў масавай інфармацыі.

Еўрапейскі Саюз гатовы да працягу дыялогу з прадстаўнікамі ўсіх палітычных сілаў Беларусі дзеля ажыццяўлення адной галоўнай мэты — ацэнкі ажыццяўлення рэформаў, рэкамендаваных аналітычнай місіяй.

Перш за ўсё місія ЕС у Мінску, умоцненая экспертамі прэзідыума ЕС, будзе сачыць за працэсам рэфармавання. Гэта будуць рэгулярныя сустрэчы з беларускімі палітыкамі, у тым ліку і на самым высокім узроўні, а таксама з прадстаўнікамі ўстановаў і сродкаў масавай інфармацыі. ЕС разлічвае на поўнае супрацоўніцтва беларускіх уладаў у гэтым працэсе.

Савет Еўрасаюза будзе перыядычна даваць агульную ацэнку гэтаму працэсу на аснове інфармацыі, атрыманай ад вышэйзгаданых місій, а таксама ад АБСЕ і Савета Еўропы.

Савет Еўрасаюза на падставе ініцыятываў АБСЕ альбо Савета Еўропы ў далейшым абмяркуе пытанне, ці падключаць дадатковыя механізмы для пашырэння дыялогу і палітычных зменаў у Беларусі.

**24 лютага 1997 г.**

*(Дакумент друкуецца цалкам — за выключэннем прэамбулы.)*

*Афіцыйны адказ Беларусі на рэкамендацыі Еўрасаюза*

# «Ад імя прэзідэнта РБ...»

***Сп. Хансу ван Міерла, намесніку прэм'ер-міністра, міністру замежных справаў Каралеўства Нідэрланды, Старшыні Савета Еўрапейскага Саюза***

Ад імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі я б хацеў заявіць, што ў Рэспубліцы Беларусь з вялікай увагай паставіліся да выніковых дакументаў, што былі прадстаўлены Місіяй ЕС па вывучэнні фактаў, і зноў пацвердзіць нашую гатоўнасць весці самы інтэнсіўны і канструктыўны дыялог на ўсіх узроўнях з Еўрасаюзам і з іншымі еўрапейскімі дэмакратычнымі арганізацыямі з мэтай усталявання стабільных адносінаў з ЕС, якія б задавальнялі інтарэсы абодвух бакоў, а таксама садзейнічалі б прагрэсу, стабільнасці і бяспецы ў Еўропе.

Гэты дыялог павінен быць адкрытым, шчырым, павінен базіравацца на трывалай аснове рэальнасцяў сённяшняга цяжкага пераходнага перыяду ў РБ і ва ўсім рэгіёне. Гэты дыялог можа і павінен уключаць у сабе падтрымку ў правядзенні дэмакратычных рэформаў і, у прыватнасці, дапамогу ў правядзенні эфектыўных рынкавых рэформаў. Усведамляючы, што гэты дыялог можа быць нялёгкім і працяглым, мы гатовыя да яго з мэтай дасягнення зрухаў па ўсіх названых накірунках.

Беларусь падкрэслівае сваю прыхільнасць да пабудовы не проста дэмакратычнай, але і сапраўды незалежнай і суверэннай дзяржавы. Рэспубліка Беларусь разглядае рэкамендацыі Савета міністраў ЕС як сістэму паслядоўных крокаў, што вядуць да такой доўгатэрміновай перспектывы, якая дазволіла б Беларусі стаць паўнапраўным членам сям'і еўрапейскіх народаў і адыгрываць заўважную ролю ў структурах бяспекі і эканамічных структурах новай Еўропы.

У межах гэтых рэкамендацый Беларусь гатовая на дадзеным этапе да рэалізацыі шэрагу лагічных і канструктыўных прапановаў, з якіх мог бы пачацца гэты працэс.

Па-першае, прэзідэнт і ўрад хочуць абмеркаваць з усімі дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання пытанне аб удасканаленні Канстытуцыі 1994 г. з мэтай усталявання больш поўнага балансу паміж функцыямі і абавязкамі трох галінаў улады — заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Будзе вітацца дапамога ЕС і адпаведных міжнародных арганізацыяў.

Па-другое, будуць вітацца дыскусіі з прадстаўнікамі ЕС і адпаведных міжнародных арганізацыяў з мэтай усталявання незалежнага кантролю за функцыянаваннем існуючага заканадаўства па абароне правоў чалавека і незалежнай ролі СМІ, а таксама ўнясення магчымых зменаў у гэтае заканадаўства.

Па-трэцяе, Беларусь цяпер стаіць перад адказным выбарам свайго доўгатэрміновай палітыкі бяспекі. У сувязі з гэтым уважліва разглядаецца праблема нашай бяспекі як неад'емнай часткі ўсёй еўрапейскай сістэмы, якая сёння знаходзіцца ў стадыі актыўнага будаўніцтва. Нашыя намеры заключаюцца ў наданні новага імпульсу нашаму дыялогу з *NATO* і Расіяй, які б зрабіў магчымай распрацоўку ўзаемапрымальнага механізма нашай бяспекі, пры адсутнасці якога наўрад ці могуць здзейсніцца актыўныя дэмакратычныя рэформы.

Неабходнае супрацоўніцтва экспертаў РБ і ЕС у прымальных формах на рабочым узроўні адпавядала б інтарэсам практычнай рэалізацыі рэкамендацый, прапанаваных ЕС, у тых напрамках, як раздзяленне уладаў, правядзенне палітычнага дыялогу з мэтай усталявання нацыянальнага кансэнсусу ў адносінах далейшага развіцця дэмакратычнага і адкрытага грамадства ў Рэспубліцы Беларусь, свабоды СМІ, забеспячэнне правоў чалавека ў адпаведнасці з прызнанымі міжнароднымі нормамі. Важным напрамкам дыялогу экспертаў павінны стаць пытанні садзейнічання заканадаўчым і практычным намаганням па правядзенні эканамічнай рэформы ў Беларусі.

Выказваючы сваю падзяку ЕС за гатоўнасць садзейнічаць рэалізацыі дэмакратычных пераўтварэнняў і эканамічных рэформаў, Беларусь хацела б адзначыць важнасць узаемных крокаў насустрач у межах маючага пачацца дыялогу. Нішто б не садзейнічала так нашаму прагрэсу на вышэйпамянёных напрамках, як рэальнае супрацоўніцтва з ЕС і яго членамі ў такіх сферах, як аднаўленне працэсу ратыфікацыі Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж ЕС і РБ, працяг працэдуры ўвядзення ў дзеянне прамежкавага Пагаднення аб гандлі і звязаных з гэтым пытанняў, далейшае развіццё ўзаемавыгадных палітычных, эканамічных і гандлёвых стасункаў паміж Беларуссю і ЕС, уключаючы рэалізацыю праграмаў тэхнічнага садзейнічання, што забяспечвалі б падтрымку Беларусі ў працэсе ўступлення ў Савет Еўропы. Адсутнасць прагрэсу на гэтых накірунках значна ўскладніла б эканамічную сітуацыю ў Беларусі і, як вынік, тэмпы эканамічных і дэмакратычных рэформаў.

Ясна, што ў рэалізацыі вышэйпамянёных крокаў мы разлічваем на дапамогу і актыўную падтрымку ЕС, і мы запрашаем еўрапейскія дэмакратычныя арганізацыі прыняць актыўны ўдзел у развіцці новай дэмакратычнай Беларусі.

У духу добрай волі Беларусь зацікаўленая і гатовая прыняць асабістага прадстаўніка Старшыні АБСЕ і іншых прадстаўнікоў еўрапейскіх арганізацый.

Мы спадзяёмся на пачатак важнага і канструктыўнага дыялогу, прапанаванага Саветам міністраў ЕС па выніках місіі ў Беларусь.

**Іван АНТАНОВІЧ,**
**міністр замежных справаў Рэспублікі Беларусь**
*Гаага, 10 красавіка 1997 г.*

# Лукашэнка хацеў пусціць пыл у вочы

У лісце, які міністр замежных справаў Нідэрландаў, старшыня Савета ЕС сп.Ханс ван Міерла палічыў няварты абмеркавання, Лукашэнка піша:

*«Неабходна падкрэсліць, што Беларусь свята прытрымліваецца ідэй дэмакратычных пераўтварэнняў, рэформы ў эканоміцы і павагі да правоў і свабод чалавека».* З улацівым яму размахам душы Лукашэнка абяцае, што ў працы над *«удасканаленнем заканадаўчай улады і Канстытуцыі 1994 года будзе ўжыты ўвесь магчымы інтэлектуальны і палітычны патэнцыял нашага грамадства»*, пры гэтым будуць праведзеныя кансультацыі *«з рознымі партыямі і асобамі, якія маюць адрозныя палітычныя погляды, у тым ліку дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання»*.

*«Рэспубліка Беларусь вызначылася з усталяваннем і развіццём дэмакратычных інстытутаў»*, — сцвярджае Лукашэнка і ў якасці доказу паведамляе, што інфармацыя аб захаванні правоў чалавека *«рэгулярна перадаецца ў розныя міжнародныя структуры»*, а беларускі ўрад *«распрацоўвае ўдасканаленыя механізмы абароны правоў і свабод чалавека, свабоды СМІ і павагі да міжнародна прынятых нормаў журналісцкай дзейнасці»*.

Акрамя таго, Лукашэнка пападраджвае, што *«Беларусь плануе выйсці да еўрапейскіх структураў з некалькімі новымі ініцыятывамі, у тым ліку прыступіць да канструктыўнага дыялогу з NATO»*. Пры гэтым *«Беларусь будзе прадпрымаць далейшыя крокі ў вышэйпамянёных накірунках з мэтай умацнення дзяржаўнага суверэнітэту, паспяховага ўдасканалення дэмакратычных і эканамічных рэформаў і актыўнага ўдзелу ў еўрапейскай інтэграцыі»*. А каб Еўропа не спалохалася такой надзвычайнай актыўнасці Беларусі, Лукашэнка супакойвае: *«Мы гатовыя да больш дэталёвых і аб'ектыўных перамоваў па ўсім спектры пытанняў, узнятых Саветам міністраў ЕС»*.

Такім чынам, Лукашэнка фактычна «падставіў» Антановіча на высокай палітычнай сцэне Еўропы. Шэфу МЗС давялося весці ў Нідэрланды тэкст, які ніяк нельга назваць палітычным дакументам. Лукашэнка зноў здолеў, што ён пуп зямлі і што Еўропа сцішылася ў трапяткім чаканні, калі ж Беларусь пажадае *«пачаць канструктыўны дыялог з NATO»*.

У выніку Лукашэнкаў ліст праігнаравалі, а Антановічу давялося ратаваць сітуацыю і на хаду сачыняць «ад імя прэзідэнта» новую паперу.

*(Цытаты даюцца ў перакладзе з англійскай мовы.)*

# Почем свобода слова, господа?

*(Начало на стр. 2)*

В Москве хоть Гусинский с Березовским, «Онэксимбанк» с «Газпромом» борются на газетно-телевизионном рынке. У нас — один владелец приватизировал государство и вместе с ним всю государственную прессу и все типографии. И, как говорится, нет проблем... Ситуация, при которой «Приорбанк» сражался бы за контрольный пакет акций «Советской Белоруссии» с банком «Поиск», сегодня должна выглядеть не только фантастической, но попросту инфарктной для большинства сотрудников и этого и других приватизированных правителем страны изданий. Потому что новый владелец выгонит бездарей и приспособленцев и будет делать трехсоттысячный тираж не на безрыбье и в обстановке особого благоприятствования, созданной владельцем страны, а в условиях острой конкурентной борьбы, как это и должно быть.

Кампания по разоблачению независимости либеральной московской прессы, развернутая «Советской Белоруссией», имеет очевидную подоплеку, которая, впрочем, и не скрывается. Сотрудник газеты Василий Сергеенко обозначил ее в названии своей статьи более чем прозрачно — *«Из жизни «независимой» прессы: «Известия» пытаются спрыгнуть с коленок «ЛУКойла» и продолжают сочинять небылицы о Беларуси»* (18 апреля).

Здесь и зарыта собака «совбельского» критицизма и принципиальности. Не публиковали бы «Известия» острых критических статей о лукашенковском режиме, глядишь, и «Советская Белоруссия» не раздувала бы свое обличительное кадило. К чему ссориться, ежели завтра жить и работать в одной стране? Но объединительный процесс застопорился. Союзные перспективы несколько померкли. И тогда «верному Руслану» скомандовали «Фас!»

Что же до независимости «Известий» и давления на это издание переплевшегося с властью и торжествующего в своей хамской силе и самоуверенности капитала, то я искренне желаю шефу «СБ» дожить до того времени, когда он сможет напечатать в своей газете слова, похожие на те, с которыми на днях обратились к общественности замечательные российские интеллигенты — писатели, актеры, музыканты, ученые: *«...в России начинают задыхаться свободная мысль и творчество. В России исчезает независимая пресса... «Известия» пытаются поставить на колени... Это — не демократия. Это — не рынок. Это — новый тоталитаризм»*.

Только время придется переменить с настоящего на прошедшее: «В Беларуси задушены свободная мысль и творчество. В Беларуси исчезла независимая пресса...»

Не случайно, видимо, одна их последних публикаций в «СБ» называется «В российских СМИ тоже выживает послушный?» (16 апреля). Характерно это *«тоже»*. То ли попытка самооправдаться... То ли запоздалое признание: «Мы ничего не можем, господа... Нас *тоже* купили...»

Напрасная попытка пристроиться «в ряд». Штука в том, что *вас* и покупать не надо было. Хрюкая и толкаясь, вы сами изо всех сил пробивались к корыту...

БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА

праграма

«ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ»

сумесна з шэрагам рэспубліканскіх маладзёжных арганізацый праводзіць міжнародную канферэнцыю

**«МАЛАДЗЁЖНЫЯ НЯЎРАДАВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ І ПРАБЛЕМЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ»**

*У канферэнцыі возьмуць удзел прадстаўнікі рэспубліканскіх, рэгіянальных і гарадскіх маладзёжных арганізацый Беларусі; удзельнікі працоўнай групы Асамблеі няўрадавых арганізацый; выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў і вучоныя Акадэміі навук Беларусі.*

***На канферэнцыі будуць абмеркаваны такія праблемы, як асаблівасці маладзёжнага руху ў Рэспубліцы Беларусь, каардынацыя дзейнасці маладзёжных няўрадавых арганізацый і пытанні іх інфармацыйнага забеспячэння.***

Канферэнцыя адбудзецца

**4 мая 1997 года а 10-й гадзіне**

у Міжнародным адукацыйным цэнтры (пр. «Праўды», 11)

© Гальфстрым-97

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



# Людзі нездарма баяцца камет

**Цяпер, як вядома, каля Зямлі пралятае камета Хейла-Бопа. Даволі вялікі туманны хвост каметы відаць у заходняй частцы неба. «Візіт нябеснай госці» наводзіць на роздумы не толькі астраномаў, але і гісторыкаў і археолагаў.**

У брытанскай газеце *Independent on Sunday* быў надрукаваны артыкул пад кідкім загалоўкам «Садом і Гамора былі знішчаныя каметай». Аўтар, грунтуючыся на выніках розных навуковых даследаванняў, дае сваю інтэрпрэтацыю біблейскай легенды пра знішчэнне гарадоў Садома і Гаморы нябесным агнём.

У прыватнасці, французскі археолаг Курці даследаваў пробы грунту з трох рэгіёнаў Блізкага Усходу і выявіў рэчывы, якія для нашай планеты неўласцівыя і сустракаюцца толькі на аб'ектах касмічнага паходжання — метэарытах. Геалагічным пародам, якія вывучаў Курці, амаль 4000 гадоў, а менавіта да гэтага часу Біблія адносіць смерць «грэшных гарадоў».

Праблемы зямных катаклізмаў, што прыйшлі з нябёсаў, будуць абмяркоўвацца на канферэнцыі, якая пройдзе ў Кембрыджскім універсітэце гэтым летам. Адзін з арганізатараў канферэнцыі, прафесар Пэйзер з універсітэта горада Ліверпуль, сцвярджае, што пагібель многіх цывілізацый у бронзавым веку мае незямныя прычыны і гэтаму ёсць археалагічныя пацверджанні. Прыкладна каля 2200 года да н.э. адначасова заняпалі Егіпецкае царства, шумерская цывілізацыя ў Месапатаміі і старажытная цывілізацыя ў даліне ракі Інд. Увогуле, па падліках навукоўцаў, у выніку катастроф з паверхні Зямлі знікла каля 40 вялікіх гарадоў, а зямныя катаклізмы кшталту землятрусаў ці вывяржэння магутных вулканаў не маглі закрануць адразу такія вялікія тэрыторыі.

Доктар Клюб, прафесар Оксфардскага цэнтра астрафізічных даследаванняў, лічыць, што «*у небе да гэтага часу ёсць вялікая небяспека для Зямлі, і людзі маюць рацыю, калі гэтага асцерагаюцца*». Вядома, людзі не могуць уплываць на касмічныя працэсы, не могуць змяняць час і траекторыю руху нябесных свяцілаў, але навука можа і павінна навучыцца прадказваць непажаданыя канфлікты з нябёсамі. Што ж да каметы Хейла-Бопа, то ад яе ніякіх непрыемных сюрпрызаў сучасныя астраномы не чакаюць.

**Дзмітрый ДАРОХІН**

# Кампакт-дыск – герой рынку

**Еўраамерыканскае агенцтва *Customers Research*, якое займаецца даследаваннем спажывецкага рынку, прызнала героем 1996 года кампакт-дыск.**

Срэбны кружок, які ўжываецца для лічбавага запісу гукаў, зрокавых вобразаў і камп'ютэрных дадзеных, стаў на рынках Еўропы і Амерыкі сапраўдным лідэрам. У 1996 г. ва ўсім свеце прададзена ў 3,6 раза больш кампакт-дыскаў, чым за папярэдні год, а агульная колькасць іх перавысіла мільярд штук. Не толькі магнітная стужка, але нават і звычайныя камп'ютэрныя дыскеты не вытрымліваюць канкурэнцыі з больш даўгавечным і надзейным *CD*. За тую самую цану на кампакт-дыску сёння можна змясціць у дваццаць разоў больш інфармацыі, чым на дыскеце.

Аднак звычайнаму бліскучаму дыску на пяты наступае прадстаўнік малодшага пакалення кампактных носьбітаў інфармацыі. Адзін з лідэраў электроннай прамысловасці французскі канцэрн *Thomson* у 1997 г. запускае ў серыйную вытворчасць новае вынаходніцтва — відэакружэлку *DVD*, якая ў хуткім часе павінна замяніць сённяшнія відэакампакты. Дыск *DVD* мае надзвычай вялікую памяць — ад 4,7 да 17 гігабайт (для параўнання: звычайны відэа-*CD* можа запомніць толькі 650 мегабайт). На *DVD* можна запісаць да васьмі гадзін фільму з вельмі высокай якасцю адбітка і аб'ёмным стэрэафанічным гукам. Дарэчы, запіс гуку магчымы ажно на васьмі дарожках. Стандарт *DVD* дае магчымасць загадзя праграмаваць паказ відэафільма — так што вы можаце «выразаць» эратычныя або залішне драматычныя сцэны, калі праглядаеце фільм разам з дзецьмі. Але, бадай, найбольшую радасць *DVD* могуць прынесці аматарам спорту. На дыск адначасова запісваецца вобраз з розных камераў, — і заўзятар пасля можа ўбачыць гол, забіты ягоным любімым футбалістам, з васьмі розных пунктаў, ва ўсіх ракурсах.

**М.Н.**

# Ну і бурбалкі!

**Сямідзесяцігадовы Джон Кук вось ужо чатыры гады падарожнічае па Злучаных Штатах на старым школьным аўтобусе і арганізуе на пацеху дзецям незвычайныя прадстаўленні — выдзімае гіганцкія мыльныя бурбалкі.**

Кук дасягнуў у гэтым своеасаблівым штукарстве нечуваных поспехаў. Раней самы вялікі мыльны пузыр удалося выдзьмуць жыхару Нью-Йорка Давіду Стайну ў 1988 г. — вясёлкавая бурбалка мела дыяметр 15 метраў. Пузыры Кука часам сягаюць фантастычных памераў — да 50 метраў у дыяметры. Ён выкарыстоўвае мыльны раствор (дакладны спосаб прыгатавання Джон трымае ў сакрэце) і капронавую рамку, прымацаваную да бамбукавай палачкі. Велічыня пузыра залежыць ад умоваў надвор'я: лепш за ўсё бурбалкі атрымліваюцца пры высокім атмасферным ціску, вільготнасці паветра 30—50% і невялікім ветры, які ўласна і выдзімае пузыры.

# Прысядзьце на «кавалачак мастацтва»

**Галандскі дызайнер Рэнэ Шлірэндрэхт знайшоў вельмі арыгінальны спосаб рэалізацыі свайго неўтаймоўнага натхнення, спалучыўшы прыгожае з фізіялагічна неабходным.**

Ён заняўся роспісам... сядзенняў і накрывак для унітазаў. У сваёй «сантэхнічнай» калекцыі ён распрацоўвае як футурыстычныя матывы, так і вобразы сярэднявечнага жывапісу. Больш за ўсё Рэнэ ганарыцца серыяй, у якой выкарыстоўваюцца фрагменты славутых італьянскіх фрэсак. Адна штука ягонай мастацкай страсці каштуе 250–400 долараў.

Праўда, ёсць сур'ёзныя праблемы з продажам гэтых рэчаў. Уладальнікі эксклюзіўных мэблевых салонаў чамусьці сцвярджаюць, што творы Шлірэндрэхта пазбаўленыя густу. А гаспадары магазінаў з сантэхнічнай арматурай кажуць, што «прыбіральня — гэта не мастацкая галерэя». Але хіба яны разбіраюцца ў мастацтве? Упарты галандзец упэўнены, што ягоны зорны час абавязкова прыйдзе.

# «Свінская» касметыка

**Сучасная касметычная прадукцыя часта аказвае моцнае ўздзеянне на скуру чалавека. Вытворцы даводзяць, што вынік павінны быць карысным для здароўя, але як у гэтым пераканацца?**

Нямецкія эксперты-хімікі трымаюць крэмы, адэкалоны, шампуні і іншую касметыку пад строгім кантролем, а дапамагаюць ім у гэтым... свіныя хвосцікі. Сапраўды, скура свінні па сваёй структуры, колькасці пораў і валасяных фалікулаў даволі падобная на чалавечую. Таму гамбургскія таксіколагі выкарыстоўваюць свіныя хвасты (адыходы у традыцыйнай мясной прамысловасці), каб устанавіць глыбіню і хуткасць пранікнення ў скуру розных кампанентаў касметыкі, а таксама эфект, які яны аказваюць на тканкі і клеткі.

**Г.Ш.**

# Радыё вяртаецца з космасу

**Да сярэдзіны 60-х гг. радыё было сродкам інфармацыі нумар адзін, пасля яго выцесніла тэлебачанне.**

Многія рэгіёны ў Афрыцы, Азіі і Лацінскай Амерыцы дагэтуль застаюцца «белымі плямамі»: там няма (і часам немагчыма стварыць) сеткі эфірных рэтранслятараў. Аднак новыя лічбавыя тэхналогіі дазваляюць ажыццяўляць перадачу і прыём радыёсігналаў непасрэдна са спадарожнікаў, прычым без выкарыстання груваcткіх антэн-«талерак». Навукоўцы з нямецкага *Fraunhofer-Institut* распрацавалі партатыўны радыёпрыёмнік новага пакалення, які дазваляе прымаць сігналы са спадарожнікаў, пры гэтым якасць гуку практычна не адрозніваецца ад гучання прайгравальнікаў кампакт-дыскаў.

Амерыканская *WorldSpace Corporation* ухапілася за ідэю і ў 1998 годзе плануе запусціць тры спецыяльныя спадарожнікі-рэтранслятары. Праз іх мяркуецца перадаваць сотні аўдыёпраграм на розных мовах, якія змогуць слухаць амаль 4 мільярды людзей.

# Калі на зямлі не спіцца...

**Амерыканская авіякампанія *Mile High Adventures* прапануе кліентам вельмі пікантную паслугу.**

На борце невялікага самалёта кліентаў чакае бутэлька добрага шампанскага, шакалад, спакойная меладычная музыка і... шырокі мяккі ложак. Рамантычны палёт на вышыні 1.600 м над Лос-Анджэлесам працягваецца гадзіну і каштуе 429 долараў. У рэкламным буклеце пазначана, што сервіс разлічаны на двух пасажыраў, але — «магчымыя варыянты». Натуральна, за дадатковую плату.

**М.Н.**

# Праз 10 тыдняў тут будзе Кітай

На браме перад палацам губернатара Ганконга яшчэ вісіць герб Злучанага каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі. Перад афіцыйнымі будынкамі яшчэ лунаюць брытанскія сцягі, а ў краме вам дадуць рэшту манетамі з профілем Яе Вялікасці Елізаветы II. Але чым бліжэй дзень 30 чэрвеня, тым менш застаецца знакаў Брытанскай імперыі — яны паволі знікаюць з паштовых марак, пячатак пагранічнікаў, з назваў школ, клубаў, паркаў.

Каралеўская абсерваторыя — метэаралагічны цэнтр, які прагназуе надвор'е ў Ганконгу, — недаўна змяніла назву на Ганконгскую абсерваторыю. Пакуль што нязменнымі засталіся назвы вуліц — Прынца Эдварда, Каралевы Вікторыі, Морысана, Велінгтона... Але і на іх, відаць, прыйдзе час. Праз дзесяць тыдняў законы і парадкі тут будзе дыктаваць Пекін. Паўтара стагоддзя брытанскага панавання ў Ганконзе адыдуць у гісторыю. Палац губернатара апусцее — хутчэй за ўсё ў ім зробяць музей. Новы «губернатар» Тунг Чыгуа, які з 1 ліпеня будзе выконваць функцыі кіраўніка Спецыяльнага адміністратыўнага раёна Ганконг Кітайскай Народнай Рэспублікі, заявіў, што ягонай нагі не будзе ў старым будынку.



Пакуль што жыццё ў Ганконгу істотна не змянілася: людзі ўвесь час спяшаюцца, занятыя працай, клопатамі пра дом, сям'ю, дзяцей. Штохвіліны ў кожнага ў кішэні, партфелі або дамскай сумачцы звоніць сотавы тэлефон.

## Іншаземцаў больш і больш

На фешэнебельны марскі лайнер *Queen Elizabeth 2* села 18 брытанцаў, якія працавалі ў тутэйшай адміністрацыі. Гэта — апошняя група людзей, якія афіцыйна скарысталі дадзеную законам магчымасць вяртання з калоніі ў метраполію. Увогуле ж, у іміграцыйнай службе Ганконга сцвярджаюць, што няма ніякіх падставаў гаварыць аб уцёках людзей. Наадварот, брытанцаў і іншых іншаземцаў прыязджае больш, чым ад'язджае. Тыя, хто хацеў выехаць, зрабілі гэта яшчэ ў 1989 годзе, калі ў Пекіне ўлады расстралялі мірную студэнцкую дэманстрацыю і многія жыхары Ганконга палічылі за лепшае забяспечыць сабе спакойную будучыню ў Еўропе, ЗША, Канадзе, Аўстраліі. Сапраўды, у 1991 г. у Ганконгу заставалася толькі 16 тысяч брытанцаў, у 1994 г. было ўжо 23 тысячы, а летась лічба ўзрасла да 34 тысяч! На сённяшні дзень у Ганконгу пастаянна пражывае амаль паўмільёна іншаземцаў, пастаянна расце колькасць замежных фірмаў.

Ці ў гэтым праяўляецца давер да камуністычнага Кітая, які неўзабаве пачне кантраляваць Ганконг? Бадай, не. Людзей з розных краін Ганконг вабіць тым, што тут можна хутка зарабіць немалыя грошы, што ўмовы і варункі для бізнесу ці не самыя лепшыя ў свеце. Нягледзячы на тое, што над Ганконгам збіраюцца хмары няпэўнасці (як няпэўная будучыня Кітая ўвогуле), пакуль Ганконг яшчэ застаецца адной з самых канкурэнтаздольных і свабодных для прадпрымальніцкай ініцыятывы эканамічных сістэм свету. «Пачакаем — пабачым», — гавораць іншаземцы ў Ганконгу. Зрэшты, яны маюць у кішэні самы лепшы страхавы поліс — пашпарты сваіх краін, куды заўсёды змогуць вярнуцца.

Большасць з 6 мільёнаў кітайцаў, якія жывуць у Ганконгу, такой гарантыі не маюць. Зрэшты, ім бы папросту не хапіла грошай, каб куды-небудзь з'ехаць. Пакуль што іхняе жыццё ідзе звычайным ходам — яны занятыя працай, домам, дзецьмі. У кожнага штохвіліны ў кішэні, партфелі або дамскай сумачцы звоніць сотавы тэлефон (звычайных кабельных тэлефонаў тут ужо амаль няма). На вуліцах — натоўпы, у крамах — натоўпы, у метро — натоўпы. Горад можна параўнаць з гіганцкім мурашнікам. Штохвіліны ў аэрапорце прызямляецца самалёт, кожныя пяць хвілін прыплываюць і адплываюць караблі пад самымі рознымі сцягамі, гатэлі і рэстараны трэскаюцца па швах. Беспрацоўя ў Ганконгу практычна няма, але за фасадам звычайных штодзённых клопатаў хаваецца страх.




| | | | |
|---|---|---|---|
| Плошча | 1.074 кв.км | Сталіца | Вікторыя (1,2 млн.) |
| Насельніцтва | 6,1 млн. | ВУП | 27.040 USD/чал. |
| Мовы | англійская, кітайская | Беспрацоўе | < 2% |

## Галоўнае – каб далі зарабіць

Сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя ў лютым 1997 г., паказалі, што сярэднестатыстычны жыхар Ганконга больш за ўсё баіцца карупцыі. 72% апытаных упэўненыя, што з прыходам кітайскіх уладаў карупцыя ў дзяржаўных структурах стане татальнай. Многія лічаць, што фактычную ўладу ў Ганконгу будуць мець «чырвоныя князькі» — гэта значыць дзеці і ўнукі партыйных босаў Кітая, для якіх закон не пісаны. Больш за палову рэспандэнтаў таксама баяцца, што бедны (калі не сказаць — жабрацкі) Кітай захоча вырашыць свае праблемы за кошт развітога і адносна багатага Ганконга.

Увогуле, у эканамічным плане Ганконг з'яўляецца вельмі прывабным набыткам для Пекіна. Невялікая калонія за час панавання брытанскай кароны сталася адным з яе дыяментаў — бадай, ці не самым каштоўным. Гадавы даход на душу насельніцтва тут большы, чым у Вялікабрытаніі, і складае амаль 25 тыс. долараў, у той час як у мацерыковым Кітаі — некалькі соцень.

(Працяг на стар. 8)

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



СПОРТ

# Упершыню!

**ХАКЕЙ: ХОРАМ СКАЗАЛІ *А*!**

Збылася мара беларускіх заўзятараў — нацыянальная зборная нашай краіны перамагла на чэмпіянаце свету ў групе В і заваявала права выступіць у наступным сезоне ў вышэйшым дывізіёне сусветнага хакея разам з камандамі Чэхіі, Канады, Швецыі, Фінляндыі, Расіі, Германіі, ЗША... Гэта ўжо другі трыумф нашых хакеістаў ў гэтым годзе: у лютым яны заваявалі пуцёўку на Зімовую Алімпіяду-98 у Нагана.

Поспех майстроў хакея вельмі дзіўны на фоне дэградацыі іншых калектыўных відаў спорту — футбола, баскетбола, гандбола, валейбола. Яго карані трэба шукаць у застойных гадах, калі ў Мінску быў пабудаваны Крыты каток і на яго базе адкрыта хакейная школа «Юнацтва». Юнацкія каманды школы не раз у спаборніцтвах з аднагодкамі з маскоўскіх ЦСКА, «Дынама», «Спартака» станавіліся чэмпіёнамі і медалістамі першынстваў СССР. І цяпер у камандзе-пераможцы групы *В* большасць — выхаванцы «Юнацтва», хаця сама школа перажывае цяжкія часы.

Трэба аддаць належнае і кіраўніцтву Федэрацыі хакея (прэзідэнт Леў Кантаровіч), і трэнерскаму трыо (Анатоль Варывончык, Уладзімір Мелянчук, Міхаіл Захараў), якія змаглі сабраць пад сцягам зборнай таленавітых беларускіх хлопцаў, які выступаюць у клубах Беларусі, Расіі, Швецыі, Фінляндыі, Чэхіі, Іспаніі, Даніі, Германіі, ЗША, Польшчы, аб'яднаць іх пераможнай ідэяй і матэрыялізаваць яе.

Вырашальнай для канчатковага поспеху стала цяжкая перамога ў першым матчы з Швейцарыяй. Вельмі ж няўпэўнена дзейнічалі варатары (у першым перыядзе — Шумідуб, у другім — Емяльянаў). Адкрыўшы лік, беларусы хутка апынуліся ў становішчы, калі трэба адыгрывацца. Вось як мянялася становішча ў гэтым фантастычным па напружанні матчы: 1:0; 1:1; 1:2, 2:2, 2:3 (першы перыяд), 2:4; 3:4; 3:5 (другі перыяд); 4:5; 5:5; 6:5!

Упершыню на чэмпіянаце наша каманда дастойна адпрацавала заключную трэць матча.

Пасля таго, як Казахстан і Польшча згулялі ўнічыю, у апошніх двух матчах нашым дастаткова было зрабіць нічыю. Перамога ж над Аўстрыяй — 6:4 — падаравала беларусам жаданае першае месца, гульня з брытанцамі — не больш чым фармальнасць.

У папярэднім нумары памылкова быў паведамлены вынік матча Польшча — Аўстрыя. Польшча прайграла — 4:6. А ў шостым туры былі зафіксаваныя такія вынікі: *Казахстан — Данія — 6:4, Вялікабрытанія — Швейцарыя — 2:3, Польшча — Галандыя — 1:3.*

**Становішча пасля шасці тураў**

| | Шайбы | Ачкі |
|---|---|---|
| 1. Беларусь | 42—19 | 12 |
| 2. Казахстан | 26—18 | 9 |
| 3. Швейцарыя | 24—20 | 7 |
| 4. Аўстрыя | 20—20 | 6 |
| 5. Вялікабрытанія | 26—16 | 5 |
| 6. Галандыя | 18—33 | 5 |
| 7. Польшча | 14—22 | 4 |
| 8. Данія | 17—39 | 0 |

Значыць, група *А*?! Ды не зусім так! Палітычныя гульні з Масквой вельмі натуральна могуць прывесці да згубы суверэнітэту, і нам ужо ніколі не давядзецца ліць слёзы шчасця пасля перамогі зборнай Беларусі. Нікому не трэба тлумачыць, што такое нацыянальны гонар. Няўжо мы так проста развітаемся з ім?!

**ПЛАВАННЕ: САМЫ ЛЕПШЫ БРАСІСТ СВЕТУ**

Калі Аляксандр Гукаў, які няўдала выступіў у Атланце, стаў у снежні чэмпіёнам Еўропы ў плаванні на 200 м брасам, радасць суправаджалася сумневам: пасля Алімпіяды лідэры сусветнага плавання дазволілі сабе адпачыць, ды і Еўропа — не свет. Аднак і ў Гётэборгу (Швецыя) мінчанін не спасаваў. Напачатку ён стаў фіналістам на 100-метроўцы (праўда, вышэй 8-га месца не падняўся). Аднак 200 метраў Алесю заўсёды ўдаюцца лепш. Так і здарылася. У фінале пасля першай сотні метраў Гукаў плыў трэцім-чацвёртым, але нарошчваў тэмп і на фінішы выраваў вызначальныя толькі электронікай сотыя долі секунды ў расіяніна Андрэя Карнеева. Пераможны час мінчаніна — 2.09,25. Упершыню ў гісторыі беларускага спорту ў нас з'явіўся чэмпіён свету і Еўропы па плаванні.

Вельмі добра плыў і дэбютант турніру такога рангу Ігар Каляда з Гродна. Ён таксама перамог у фінале, але ў фінале групы *В*, дзе разыгрываліся месцы з 9-га па 16-е на дыстанцыі 400 метраў вольным стылем.

Лепш за іншых на чэмпіянаце выступалі аўстралійцы, якія заваявалі 8 вышэйшых узнагарод.

**ФУТБОЛ: «ЛАКАМАТЫЎ» НАБІРАЕ ХУТКАСЦЬ**

У апошніх матчах другога тура «Шахцёр» (Салігорск) прайграў дома МВКЦ (Мазыр) — 0:4, а мінскае «Тарпеда» перамагло магілёўскі «Трансмаш» — 2:0.

У трэцім туры цэнтральным быў матч «Дынама-93» (Мінск) — «Днепр» (Магілёў). Мінчане паставілі цяпер ужо былога лідэра на калені — 3:0. Бабруйская «Белшына» нанесла першую паразу брэстаўчанам — 3:1, а «Лакаматыў-96» (Віцебск) у трэці раз перамог з лікам 1:0, на гэты раз ФК Маладзечна. «Камунальнік» (Слонім) — «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў —1:1).

Астатнія чатыры сустрэчы адбыліся ў панядзелак увечары.

Пакуль жа наперадзе крочаць: *«Лакаматыў-96» — 9 ачкоў (пасля трох гульняў), «Дынама-93» — 7 (3), «Белшына» і «Днепр» — па 6 (3).*

**СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА: ВАНЯ ВЯРНУЎСЯ!**

Абсалютны чэмпіён свету і Еўропы Іван Іванкоў вярнуўся на гімнастычны памост пасля 9-месячнага перапынку, вызванага траўмай ахілава сухажылля. На турніры ў Котбусе (Германія) ён выйграў практыкаванні на брусах і быў другім яшчэ на двух снарадах.

**ТЭНІС: АНДРЭ АЖАНІЎСЯ**

Супертэнісіст 26-гадовы Андрэ Агасі і 31-гадовая кіназорка Брук Шылдс павянчаліся ў суботу ў невялікім каліфарнійскім гарадку Мантэрэй. На вяселле запрасілі толькі самых блізкіх, такіх набралася каля 100 чалавек. Пасля гулянне маладыя адправіліся на курорт Стоўн-Пайн, дзе зарэзервавалі 12 раскошных віл.

**Сямён ПЛОЦ**

# Праз 10 тыдняў тут будзе Кітай

(Пачатак на стар. 7)

Валавы ўнутраны прадукт (ВУП) Ганконга роўны чацвёртай частцы ВУП усяго вялікага Кітая. Сусветныя эканамісты са здзіўленнем гавораць аб прафесіяналізме ганконгскіх банкіраў, якія ператварылі калонію ў сапраўдную фабрыку па вытворчасці грошай і народжанні эмігацыі з прызнанымі фінансавымі цэнтрамі свету.

Аднак увогуле, амаль усе ў Ганконгу спадзяюцца, што камуністычныя кітайскія парадкі не закрануць іх прыватнага жыцця, звычак і традыцый. Жыхары Ганконга схільныя лічыць, што змены перш за ўсё будуць датычыцца палітычнай сферы і ідэалагічных сімвалаў, а ў штодзённым жыцці самае галоўнае — справы матэрыяльныя, эканамічныя аспекты. «Абы толькі новая ўлада не перашкаджала зарабляць грошы, астатняе неістотна», — такой пазіцыі прытрымліваецца абсалютная большасць.

У пэўнай ступені да выпрацоўкі такой пазіцыі спрычыніліся брытанцы. Амаль 150 гадоў яны сапраўды вельмі эфектыўна кіравалі Ганконгам у плане эканамічным, але пра палітычныя свабоды гаварыць асабліва не даводзілася. Дэмакратычная партыя Ганконга сфармавалася толькі ў 1994 г., і толькі аднойчы карэннае насельніцтва брытанскай калоніі магло непасрэдна ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах. Таму сярэднестатыстычны жыхар Ганконга не вельмі цікавіцца палітыкай: 74% апытаных кажуць, што ім усё роўна, хто стане начальнікам кітайскай адміністрацыі. Галоўнае, каб не пагоршылася эканамічнае жыццё, бо ў гэтым выпадку ажно 50% будуць шукаць магчымасць эміграцыі.



*На лайнеры Queen Elizabeth 2 з Ганконга адплылі 18 брытанцаў, якія працавалі ў мясцовай адміністрацыі. Гэта апошняя група афіцыйных мігрантаў, якія вяртаюцца ў Англію марскім шляхам.*

## Мала гаварыць, многа зарабляць

Дасканалая эканамічная сітуацыя, у якой ніхто не павінен баяцца беспрацоўя, інфляцыі, росту падаткаў, становіцца для жыхароў Ганконга ідэяй фікс. Недзе ў глыбіні душы кожны адчувае, што так не будзе, — але не хоча пра гэта гаварыць. Большасць людзей пазбягае ўсякіх гаворак на палітычныя тэмы. У Ганконгу цяпер сапраўднае нашэсце журналістаў, аднак чыноўнікі, бізнесмены і проста людзі на вуліцах не хочуць даваць ніякіх каментарыяў або інтэр'ю. Хіба што адзін з самых багатых бізнесменаў Марцін Лі адкрыта крытыкуе Кітай і малюе будучыню ў змрочных фарбах, а група амбітных, але няўдалых кітайскіх прадпрымальнікаў сярэдній рукі карыстаецца выпадкам, каб пахваліць Пекін і загадзя атрымаць нейкія ачкі ў вачах заўтрашніх гаспадароў Ганконга. Астатнія лічаць за лепшае маўчаць — навошта нарывацца на непрыемнасці?

Такая «самацэнзура» з кожным днём усё мацней праяўляецца ў сродках масавай інфармацыі. Нават штодзённая газета *South China Morning Post*, якая за амаль 100 гадоў існавання набыла рэпутацыю аднаго з самых уплывовых і прэстыжных выданняў, больш не друкуе сатырычных карыкатур на вышэйшых кіраўнікоў Кітая і вострых каментарыяў да палітыкі афіцыйнага Пекіна. Рэдакцыя баіцца, што асцярожныя бізнесмены перастануць даваць рэкламу ў залішне «апазіцыйную» газету. Ці ў гэтым праяўляецца звычайны страх, ці дальнабачная асцярожнасць — сказаць цяжка. Як цяжка і прагназаваць, што станецца з Ганконгам і цэлым Кітаем праз дзесяць-пятнаццаць гадоў.



*Будучы кіраўнік адміністрацыі Ганконга 59-гадовы Тунг Чыгуа нарадзіўся ў Шанхаі, атрымаў адукацыю ў Ліверпулі. Ён належыць да класа мясцовых прадпрымальнікаў, якія і зрабілі тое, што завецца ганконгскім эканамічным цудам.*

## Карнавал, феерверкі, шампанскае...

Аднак з пэўнасцю можна сказаць, што праз дзесяць тыдняў у Ганконгу будзе карнавал, якога яшчэ свет не бачыў. Але ўбачыць, пачуе, прачытае — пра гэта паставяцца 6 тысяч журналістаў, радыёрэпарцёраў, тэлеаператараў, якія 30 чэрвеня збяруцца ў Ганконгу, каб пасмакаваць *handover*, як лаканічна называецца англійску перадача ўлады Пекіну.

Плануюцца тэатралізаваныя шэсці па вуліцах, марскія парады паміж кантынентальным берагам і востравам Ганконг, гіганцкія феерверкі, банкеты, танцы, сотні тысяч бутэлек шампанскага.

Адной з асноўных імпрэзаў у праграме свята павінен быў стаць канцэрт рок-зоркі Элтана Джона на вялізным стадыёне. Жыхары кварталаў вакол стадыёна пачалі пратэставаць: маўляў, будзе шмат шуму і гэта парушыць іхні звычны лад жыцця. Гарадскія ўлады прапанавалі вельмі арыгінальнае вырашэнне канфлікту: спявак выступае без гукаўзмацняльнай апаратуры, а кожнаму слухачу выдаюць навушнікі — няхай атрымлівае асалоду індывідуальна. А каб узрушаная публіка не пляскала ў ладкі залішне гучна, кожнаму меркавалася выдаць пару белых баваўняных пальчатак. Элтан Джон пакрыўдзіўся на такія кітайскія вынаходніцтвы і адмяніў канцэрт.

А вось у афіцыйнай цырымоніі ніякіх надзвычайных зменаў быць не павінна: ужо вядомы папярэдні пратакол. 30 чэрвеня перад 6-й гадзінай вечара брытанскі губернатар Крыс Пэтэн канчаткова пакіне свой палац на Альберт Роўд. Роўна ў 18:00 на ваеннамарской базе Тамар на востраве Ганконг будзе ўрачыста спушчаны брытанскі сцяг — і гэта будзе сімвалізаваць канец панавання Брытанскай імперыі ў Ганконгу. А 9-й гадзіне вечара для чатырох тысяч запрошаных пачнецца грандыёзны банкет у канферэнцыйна-выставачным цэнтры, які спецыяльна будуюць для гэтай падзеі. А ў 23:30 у вялікім фае гэтага гмаху пачнецца ўласна цырымонія *handover*, якую будуць праводзіць, як чакаецца, прэзідэнт Кітая Цзянь Цзэмін і наступнік брытанскага трона прынц Чарльз. Роўна апоўначы, у першую секунду 1 ліпеня, Ганконг стане часткай Кітая.

Сёння ў Ганконгу многія радасна паціраюць рукі. Ад прыезду турыстаў, журналістаў, розных афіцыйных асобаў чакаюць вялікіх прыбыткаў. Кошты ў гатэлях на канец чэрвеня — пачатак ліпеня выраслі ўжо ў два разы, і тым не менш амаль усе нумары ўжо забраніраваныя. Няма сумнення, што іншыя цэны — у рэстаранах, крамах, таксі і г.д. — вырастуць таксама. Да пачатку ліпеня. А потым?

*Падрыхтавала*
**Магдалена НЕПАКАЙ**

КОШТЫ РЭКЛАМНАЙ ПЛОШЧЫ
ў газеце **СВАБОДА:**

| | | |
|---|---|---|
| у рэкламным | блоку | — **36000** руб./см² |
| на асобнай | паласе | — **44000** руб./см² |
| у тэлевізійнай | праграме | — **48000** руб./см² |
| на першай | паласе | — **120000** руб./см² |

Форма аплаты — любая (у тым ліку і бартэр)
**Даведкі па тэл. 236-89-40**

**Стэлаж гандлёвы**



СЭ - П
195 × 70

**Вытворчасць гандлёвых і складскіх стэлажоў па індывідуальных заказах**

Тэл. (017) 236-24-41

**РЕКЛАМА**
**НА ТРАНСПОРТЕ, В МЕТРО, ПРЕССЕ, НА ТЕЛЕВИДЕНИИ И РАДИО, РЕКЛАМНЫЕ ЩИТЫ**
**Разработка и производство рекламных листовок, плакатов, буклетов по умеренным ценам**
**Рекламное агентство ММ4**
Тел./факс 236 - 24 - 41
Тел. 8 - 0172 - 100 - 253

© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 36.670
Нумар падпісаны ў друк 21.04.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 295